Міхась Башлакоў

# МАТЧЫНЫ ГРЫБЫ ПЕРАБІРАЮ

ВЕРШЫ



МІНСК
"УРАДЖАЙ"
2000

# БЯРОЗАВАЯ РУНЬ

І з дзяцінствам маім падрастала
Рунь бярозавая за акном...





**Маці Пелагеі Міхееўне**
**Ступаковай прысвячаю.**

## ДЗЯЎЧЫНКА З ВЯДЗЕРЦАМ ДУХМЯНЫХ СУНІЦ

Спынюся стамлёны на скрыжаванні,
Разгублены крыху ад хвалявання.
Стаю і гадаю: "Купіць — не купіць..."
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц.

Суніцы ж так пахнуць дзяцінствам і лесам,
Далёкім маім незабыўным Палессем,
Зязюльчыным ранкам гаючых крыніц...
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц.

Там сцежкі мае зараслі ўсе травою,
Слядоў не відаць за густой лебядою.
Паехаць бы зноўку, хоць трохі пабыць...
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц.

Нібы адбылося з мінулым спатканне.
Гляджу на дзяўчынку з замілаваннем.
Яна ж чырванее, яна ўся гарыць,
Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц...

## БУСЕЛ

Буслом церушскім называюць.
З мянушкамі ўсе мы раслі.
Вясной ў Церуху прыязджаю,
Калі прылятаюць буслы.

Калісьці насіў я са студні
Паўнюткія вёдры дамоў.

І выраслі рукі нячутна
Даўгія, як крылы буслоў.

Даўно сваю вёску пакінуў.
Мянушка ж мая ўсё жыве.
Здаецца, што клёкат busліны
Мяне, нібы брата, заве.

## КАСАВІЦА

Нас разбудзіць на дымным світанку
Дробны-дробны стук малатка —
Клепле маці касу каля ганка,
Ходзіць бойка па клёпе рука.

Маці, нібы каса-дзевятуха,
Купін бачыла шмат на вяку.
Выпраўляе кляпун лапатуху,
Зычным рэхам разносіцца стук.

І ў суседзяў злева і справа
Зазвіняць, запяюць малаткі.
Упадуць сёння першыя травы
Пад касой ля туманнай ракі.

Касавіца. Чаканае свята.
Выйдзе Чэрвень з касцамі на луг.
Маладоы, у настроі прыўзнятым,
Размахнецца — захопіць аж дух.

Луг расквецiцца фарбамі хустак,
Гучнай песняй акоціць прастор.
Водар сена, настоены густа,
Важным панам заедзе у двор.

Клепле маці касу.
                Касавіца.
Малаткі ўсё гамоняць званчэй.
Самы сон...
                Нам нікольkі ж не спіцца:
Пакуляцца б у сене хутчэй...

І няўцям мне тады было з братам,
Калі двор сенам радасна пах,
Што матуля нам гэтае свята
Носіць ношкамі на плячах...

## ГРАД

Загрукоча град па даху,
Саслізнецца аб касcё.
І нагоніць бабцы страху:
"Акаянны, выб'е ўсё..."

І патэльню бабка з хаты
Вынясе пад звонкі град,
Зверху — хлебную лапату,
Перахрысціцца на сад.

Праз адчыненыя дзверы
Бачыў я, як град сціхаў,
І бабулі шчыра верыў,
І за ёй у сад імчаў.

Праз гады не чараўніцай
Стала бабка для мяне.
Стукне град у аканіцу —
Зноў у думках прамільгне.

І трымаю насцеж дзверы...
Сціхне град сам па сабе.
А ў душы ўсё ж крыху веру
Той няхітрай варажбе.

## БЯРОЗАВАЯ АРБІТА

Бярозы гнулі хлапчукі.
І сэрцы мкнуліся ў аблокі.
Штаны ірвалі аб сукі
І забывалі пра урокі.

Штодня у хлопцаў быў палёт
З ляснога "арадрома".
Бяроза — добры "самалёт",
Хоць не такі ж, вядома.

Раслі, мужнелі хлапчукі.
Здзяйсняліся іх мары.
І ўжо другія з-пад рукі
Ўглядаліся у хмары.

Лавілі кожны самалёт
Вачыма прагавіта,
І пачыналі свой узлёт
З бярозавай арбіты...

## БАКЕНЫ

Водсветы вячэрняе зары
Гаснуць над дрымотнаю ракой.
Бакеншчык развозіць ліхтары.
Цішыня. Задумлівы спакой.

Плаўна апускаецца вясло.
Дальні бакен мой запунсавеў.
Вывучыць такое рамясло
Я чамусьці раптам захацеў.

Лодку вечарамі адмыкаць.
З хлеўчука выносіць ліхтары...
Бакены вячэрнія гараць,
Бакены у водсветах зары.

## ЗА ГОРАДАМ ПАСВЯЦЦА КОНІ

За горадам пасвяцца коні
На ўскрайку квяцістых лугоў.
У грывах заблытаўся Гомель
З таемным святлом ліхтароў.

І месяц за крайняю хатай
Над поймай туманнай вісіць.
З-за плота хлапчук мурзаты
На конскае дзіва глядзіць.

Яму б хадзіць ля тых коней,
Пасвіць да самага ранку,
Даваць ім з цёплых далоней
Месяц крутым абаранкам...

Але пагукала маці.
І спаць з неахвотай пайшоў,
Нібыта навекі страціў
Коней на ўскрайку лугоў.

За горадам пасвяцца коні.
І з бойкімі хлапчукамі
Сны светлыя бачыць Гомель,
Стрыножыўшы коней агнямі.

## БЯРОЗАВАЯ РУНЬ

Мяне маці дамоў гукала
На развілцы дарог за сялом.
І з маленствам маім падрастала
Рунь бярозавая за акном.

Падрасталі бярозкі са мною.
І грубела кара іх ствалоў.
З імі мераўся кожнай вясною
Сваім ростам і лікам гадоў.

І дзяцінства калі неўпрыкметку
Я згубіў ля сваіх бяроз,
Нос кірпаты ветлай суседкі
Мяне доўга вадзіў за нос.

Праз гады — сумны позірк на вёску.
Маці з хусткай ля тых дарог.
Можа, ўспомняць маленства бярозкі,
Ценем гладзячы родны парог?

А калі спілавалі іх сёння
За акном адзінокім маім,
Хай мне буйныя ветры прыгоняць
Той самотны бярозавы дым.

## МАЛЬБА

Неба, неба,
Насып мне ў далоні
Месячных медзякоў.
Я куплю на іх зорныя гоні,
Мары тваіх аблакоў.

А таксама куплю на світанні
Пастуховай жалейкі гранне,
І між роснай густой збажыны
Шум ласкавы старэнькай сасны...

Не забуду купіць і зязюлю:
Людзям шчасце кувае хай.
Не журыся па вёсцы, матуля.
Я куплю той бярозавы гай...

## ЗАРКАПАД

Заркапад,
За акном заркапад.
Зоркі падаюць прама у сад,
Дзе цяжкія вісяць налівы.
Даспявае яблыкам жнівень.
Лістапад,
За акном лістапад.
Жоўтым лісцем засыпаны сад.
Ах, якая пара залатая!
Восень светлая дагарае.

Снегапад,
За акном снегапад.
Белы-белы заснежаны сад.

Але цепліцца ў сэрцы надзея:
Сад вясною зазелянее.

Так бяжыць, так змяняецца час.
Час змяняе прыроду і нас.
Заркапад.
Лістапад.
Снегапад...
Як цвіце за акном гэты сад!..

## СЯРКО

Ў бярозавай бялюткай хаце
Прачнецца песня салаўя.
І будзіць, будзіць мяне маці:
"Схадзі, мой сынку, па каня..."

І я іду, крыху заспаны,
Іду Сярка свайго шукаць.
На лузе пасвяцца туманы,
Каня вось толькі не відаць.

"Сярко, Сярко, — крычу з узгорка, —
Куды ты дзеўся, конік мой?"
Сярко ў траве шукае зоркі,
Што сталі сонечнай расой...

## РАНІЦА НА ПРЫПЯЦІ

Туман над поймаю бялёсы.
Дрымотна стыне асака.
А цераз Прыпяць едуць козы
Да муражнога астраўка.

Вяслуе бойкая дзяўчына,
Нібы вязе звычайны груз.
І, як на цвік, на рог казліны
Хлапчук павесіў свой картуз.

Плывуць у вочы далягляды
Сваёй бязмежнай шырынёй.
З-за лесу высыпалі хаты
На бераг ветлаю гурбой.

Гляджу я ўдалеч, і здаецца,
Світанак Прыпяццю прапах.
Як казлянятка ў лодцы, сэрца
Хвалюецца ў маіх грудзях.

## РАНІЦАЙ

Промень сонца на ганак
Упадзе залаты —
Сустракаю я ранак
Спрэчкай вёдзер пустых.

Маці паліць у печы,
Палыхае агонь.
І ўздыхае аб нечым
На двары верны конь.

Не ўздыхай, любы косю,
Не ўскідай галавы.
Мы паедзем накосім
Шаўкавістай травы.

Будуць кветкі дурманіць,
Росы ў травах звінець,
І ў блакітным тумане
Будуць колы рыпець...

## ПОМНІЦЦА

Помніцца, сена вазілі
З маці на белым кані.
Колы рыпелі і нылі.
Беглі юнацкія дні.

Ціхай вадою сплывалі
За Церуху і лугі.

Помніцца, сена складалі,
Сена складалі ў стагі.

Ўсё праляцела з гадамі.
Ды толькі памяць крані:
Тут, недзе тут, за стагамі,
Тыя далёкія дні...

## ПЕРШАЯ ПЕСНЯ

Ціха! Гучыць кананада
Птушыных галасоў...
Гэта вось шпак з майго саду
Раптам размову павёў.

Шчэ малады і няўмелы —
Першыя ноты бярэ:
То замаўчыць, то нясмела
Свішча ізноў на двары.

І мне так блізка, так люба.
Чуеце, як ён пяе?
Нібы трымае у дзюбе
Першыя песні мае...

## СПЫНЮСЯ, ПАСЛУХАЮ...

Спынюся, паслухаю:
Птушкі спяваюць...
Спынюся, паслухаю:
Сосны шумяць...
Маркота мая,
Нібы хмарка,
Сплывае —
І дні мае зноўку,
Як росы, зіхцяць...

Спынюся, паслухаю:
Рэха блукае...
Спынюся, паслухаю:

Дождж шапаціць...
Дарога лясная,
Дарога лясная
У шызую далеч
Нястомна бяжыць...

## ПА ГРЫБЫ

Штодня хаджу я
Па лясной дарозе
І, як грыбы,
Збіраю я радкі.
Світальны лес
У кошык мой
Прыносіць
Крамяныя
З расой
Баравікі.

То выбегуць
Лісічкі на палянку,
То пакланюся
Грузнаму грузду.
І толькі
Мухаморы і паганкі
У кошык свой
Ніколі не кладу...

## ВОСЕНЬ

У Чачэрску ля Чачоры
Каля Замкавай гары
Пракрычалі гусі ўчора
І зляцелі за бары.

Пацягнуліся за дымам
На узгорку стрэхі хат.
Нада мной сабраўся ў вырай
Залацісты лістапад.

Ўсё, здаецца, адлятае
У чужы далёкі край.
Сэрца вылету шукае,
Рвецца за пажоўклы гай.

І мне сумна, я журуся.
І ахвота мне згадаць,
Калі зноў на золку гусі
Ля Чачоры пракрычаць.

## КАЛОДЗЕЖНЫ ЖУРАВЕЛЬ

Душу працінаюць самотныя крыкі —
Ляцяць журавы за трыдзевяць зямель.
І раптам рвануўся, услед закурлыкаў,
Заплакаў драўляны стары журавель.

Ён доўга чакаў іх.
І вось яны клічуць.
Узняцца б, ляцець за лясы і палі...
Але цяжкі цэбар з вадою крынічнай:
Не адарвацца ніяк ад зямлі...

## ДАРОГА

У восень познюю дарога
Мяне дадому зноў вядзе,
Дзе сінім вечарам да стога,
Як шэры лось, туман брыдзе.

Сівая маці выйдзе з хаты —
Угледзіцца у далячынь.
І паплыве над цёмным садам
Вачэй засмучаных цяплынь.

А ўноч зальецца Шарык брэхам —
Прынікне маці да акна.
Ў канцы сяла, нібыта рэха,
Азвецца тоненька шчаня.

Але за вокнамі нікога.
І толькі месячык вісіць,
Які таксама на дарогу
У гэту ноч усё глядзіць...

## МАЦІ

Ступлю на родны свой парог —
Насустрач маці.
Пытаецца: "Ну што, сынок,
Стаміўся, мабыць?"

А у самой сляза з вачэй
Цячэ паволі.
Душу самотай апячэ,
Агорне болем.

За плечы ціхенька крану
Сівую маці,
Яе ласкава прыхіну:
"Не трэба плакаць..."

Слязу змахне яна рукой
І пасвятлее.
І ўся — і тварам, і душой
Памаладзее...

## МАТЧЫНЫ ГРЫБЫ

Матчыны грыбы перабіраю,
Што прывезла сёння з Церухі.
І здаецца, зноў я адчуваю
Прэлы пах імшэлае страхі.

Бачу асцярожны след ласіны
У світальным восеньскім бары.
І прычулася, што зноў асіну
Падгрызлі над рэчкаю бабры.

Помню, як мурзатыя да пятак
Смажылі ля поля каласкі.
... Яшчэ спалі за туманам хаты,
А ўжо нас гукалі цягнікі.

Ад усіх забаў сваіх дзіцячых
Спадарожным поездам уцёк.
І у спешцы я забыў удачу,
І забыў са шчасцем вузялок.

Вось чаму цяпер перабіраю
З хваляваннем матчыны грыбы.
Ўсё здаецца, што між іх спаткаю
Шумныя дзіцячыя гады...

## Я НА СТАНЦЫІ ЖЫЎ

З Гарнастаеўкі ці з Церухі
Прагрукоча цягнік міма соснаў...
І знаёмым дымком ад страхі
Мне пацягне з далёкіх тых вёснаў.

Я ў дзяцінстве на станцыі жыў.
Як любіў я агні семафораў.
А яшчэ цягнікі я любіў,
Асабліва зялёныя, скорыя.

Хлапчуком басаногім глядзеў,
Як імчаліся міма вагоны.
І да слёз так паехаць хацеў,
І махаў ім услед засмучона.

Цягнікоm праляцелі гады...
Быццам колы, выстуквае сэрца:
Толькі дым,
толькі дым,
толькі дым,
Толькі дым
ад жыцця
застаецца...

## АСЕННІ ЦЯГНІК

*Сыну Андрэю*

Завечарэла. Дымкай зацягнула.
Чакаю я цягнік на Церуху.
Жыццё, як хуткі поезд, прамільгнула.
Калі і як? Паверыць не магу.

Што я паспеў на гэтым свеце белым?
Дзесятак вершаў нейкіх напісаў?
Чаму ж так рана сёння звечарэла?
Шчыміць душа... І просіцца сляза.

Ссамотнеў я па дарагіх мясцінах.
Я на радзіме так даўно не быў.
Спынюся каля роднае хаціны.
Я помню ўсё. Нічога не забыў.

Я помню дні маленства залатыя,
Пах бульбы і цяпло начных кастроў.
Мурожнымі сцяжынамі ляснымі
Блукае рэха даўніх тых гадоў.

І хоць ніхто мяне там не чакае.
І хоць чужы агеньчык там гарыць,
У Церуху да бэзавага мая
Асенні мой цягнік загрукаціць...

## НАГАМАНІ

Нагамані мне, бор сасновы,
Шчаслівых, радасных хвілін.
Нагамані такія словы,
Каб разумеў я шум галін.

Нагамані мне, бор, гасціннасць,
Нагамані мне добрых спраў.
Нагамані, каб над хацінай
Бялёсы бусел клекатаў.

Нагамані на сенажаці
Ў духмяных травах светлых сноў.

Нагамані, каб скроні маці
Больш не сівелі за сыноў...

## СТУДНЯ

З лістападамі, з лістападамі
Завітаю я зноў сюды,
Дзе ў сцюдзёную студню падаюць,
Ціха падаюць жалуды...

Ўсё праходзіць, усё мінаецца:
Смутак, радасць, любоў, гады.
Толькі ў студню сцюдзёнай раніцай
Ціха падаюць жалуды...

Што ж так сэрца, як ліст, трапечацца?
Зачарпну я вядро вады.
І душа, нібы студня, свеціцца.
Ціха падаюць жалуды...

І мне верыцца і не верыцца —
Тут дзяцінства майго сляды.
Праз гады зноў да студні вернешся —
Ціха падаюць жалуды...

Жоўты вецер крочыць прысадамі.
Аблятаюць далоў лісты.
І ў сцюдзёную студню падаюць,
Ціха падаюць жалуды...

## ВЯСЕЛЛЕ

Аддалёку
Конскі цокат.
Смех.
Гармоні.
Бубен стогне.
Песня хмеліць.
Ах, вяселле!..
Сват са свахаю

Ў абдымку.
Маладая,
Як галінка,
Хіліцца
Да маладога.
Прагінаецца
Дарога.
Следам вецер
Цераз поле,
Каб патрапіць
На застолле.
Адгалоскі.
Вёскі, вёскі
Пралятаюць,
Далячыні.
За санямі
Ўецца іней.
Коні, коні,
Абвясцілі
Звонам гоні,
Праняслісся
І... раставалі.
Толькі бомы
Шчэ гучалі
Па-над саннаю
Арбітай
Конскім
Цокатам
Капытаў...

## ПРЫГАРАДНЫ ПОЕЗД

Мой поезд вечаровы
Ідзе па небасхіле.
Гарыць заход барвовы
Над снегавым разлівам.
За вокнамі мільгаюць
Знаёмыя прыпынкі.

І бабка ўсё пытае:
"Не Церахоўка, сынку?!

Размовы. Песні. Жарты.
Вясельныя гармоні.
І людзі, нібы карты,
Тасуюцца ў вагоне.

З усіх бакоў навіны.
Знаёмствы. Развітанні.
І светлыя ўспаміны
Вячэрняга змяркання...

## ЛОДКІ

Я часта прыходжу да Сожа.
Прымерз ён да лазнякоў.
І лодкі прымкнуты марозам
Надоўга да берагоў.

Ім кожнае ночы здаецца,
Што ранкам прымчаць хлапчукі,
І дзед яшчэ не прачнецца,
Як з іх пазбіваюць замкі...

## ЧАЛЫ

Снег расталы, снег расталы.
Льецца кволае цяпло.
Цокі-цок пляцецца Чалы
З неахвотай праз сяло.

Надакучылі дарогі.
Думкай Чалы пра авёс.
І рыпяць стамлёна дрогі
Міма лютаўскіх бяроз.

Ну, чаго ты, конік мілы,
Што ты, дружа, затужыў?

Разгубіў, відаць, ты сілы,
Па дарогах разгубіў...

Ці ты ўсё аб тым шкадуеш,
Што цяпер не конскі век?
Што даўно закінуў збрую
Без патрэбы чалавек?

Ну, чаго там пра былое?
Не вярнуцца больш яму.
І арбітаю зямною
Здаўся мне стары хамут...

## ПРАДВЕСНЕ

Бярэзіна набракла, як бяроза.
Вясновым збанам стыне небакрай.
І адступаюць звонкія марозы
За пойму, у зімовы яшчэ гай.

А следам неадступна, на той бераг,
Плывуць вясны ружовыя дымы.
І промень, нібы вострая сякера,
Насечкі робіць на ствале зімы.

## КРЫГАХОД

Цямнее павольна-павольна.
Плыве ноч з глухой даліні.
Танюсенькі месяц над полем
І вёсак далёкіх агні.

На сэрцы трывожна і ціха.
Хмялею ад паху вясны.
І чую, як стукаюць крыгі
Аб ствол прыбярэжнай сасны.

Нібыта суседкі ля студні,
Сабраліся лодкі у круг.
Шушукаюць, пэўна, пра будні,
Пра весні вандроўніцкі дух.

Паводка нахлыне, і бераг,
Як човен, за лозы сплыве.
Ды толькі ў вяртанне я веру.
...Вясло на зялёнай траве.

## ВЯСНА

Качак у завадзі ціхай
Дзед на чаўне пасе:
"Вось няма на вас ліха!
Куды гэта вас нясе?.."

Нібы ж на зло, ад дзеда
Качкі сплылі ў чарот.
А бабка крычыць: "Непаседа,
Ідзі лепш капай агарод..."

## ФОТАЗДЫМКІ ВЯСНЫ

Блакіт нябёсаў.
І блакіт пралесак.
Рудое сонца
Між бяроз брыдзе.
Вясна зрабіла
Фотаздымкі лесу
І картачкі
Пакінула вадзе.

## МУЗЫКА ВЯСНЫ

Зімовы сон
Закончыўся...
Вясновае узрушанне.
І раўчукі вясёлыя
Гамоняць па ваколіцах.
І першымі пралескамі
Узлескі усміхающца.

І небасхіл абветраны
Грамамі адклікаецца.
Ільдзінамі-аковамі
Грыміць рака раскутая.
І поймаю шырокаю
Паводка разліваецца.
Пад крыламі буслінымі
Шляхамі-пуцявінамі
Ідзе, ідзе узрушанне,
Натхнёнае, узнёслае.
І промнямі,
Як вёсламі,
Грабе па небе сонейка,
Плыве у далеч сінюю
Усмешліва-прыветлае.
І песня жаўруковая
Трымціць струной напятаю
Між небам і палеткамі.
І трубы жураўліныя.
Гусей цымбалы звонкія,
Свісцёлкі,
Флейты,
Дудачкі
Аўсянак
І малінавак,
Гармонікі шпачыныя,
Вугольнікі грачыныя,
Трашчоткі сарачыныя,
Бакасаў бубны гулкія,
Басэтлі перапёлчыны,
І каняў скрыпкі-скрыпачкі —
Усё у хор зліваецца,
Звініць,
Пераклікаецца,
Ліецца,
Сонца славячы...
Ідзе, ідзе узрушанне...

## ЗАХЛІПНЕЦЦА ДУША

Захліпнецца душа салаўінаю песняй
Пад высокаю поўняй над ціхай ракой.
І павее з лугоў цёплым ветрыкам веснім,
І прыемна запахне травой маладой.

Ад начнога кастра данясецца гаворка.
Хлапчукі, хлапчукі...
Мой касцёр адпалаў.
Трэба плысці далей, а дым сцелецца горкі:
Ні вясла і ні лодкі сабе не прыдбаў...

Невязучы, відаць, ці мо проста няўдалы?..
Не умею я жыць, не умѐю я жыць...
Людзям першы укос, мне ж заўсёды атава,
Ды і тая ў дажджы, ды і тая ў дажджы...

Знаю, будзе інакш. Не занадта бядую.
Калі-небудзь і човен, і вёслы знайду...
А пакуль на туманных лугах заначую...
Толькі б гэты касцёр за ракой не патух...

## МУЗЫКА ДАЖДЖУ

Цёплы дождж
У сонным лісці
Нешта радасна лапоча,
Як юнак...
І я калісьці
Так шаптаў вось:
"Добрай ночы..."
Быў і я
Такі вось юны
І як дождж,
Быў закаханы...
І звінелі
Сэрца струны
Дзіўнай музыкай
Аргана...

Ах, юнацтва...
Дзе ты, дзе ты?
Прамільгнула,
Нібы знічка...
Гукі флейты
Ці кларнета?..
Дождж
Па лісці...
Цвет сунічны...
Пахне дождж
Маім юнацтвам,
Пахне гэтым
Цветам белым...
І дзяўчына
Ў белым плацці
На мяне глядзіць
Нясмела
Там, далёка,
За туманам...
Нібы сон які
Мне сніцца...
Дождж шапоча
Закахана...
Вечар...
Лісце...
Цвет сунічны...

## ПАЖОЎКЛАЕ ФОТА

Сярод здымкаў знаёмых маіх і сяброў
Мне патрапіўся здымак далёкіх гадоў.

З хваляваннем глядзеў на пажоўклае фота:
Там была мая маці маладой, бесклапотнай.
Ні маршчын ля вачэй, ні густой сівізны,
Ні яшчэ перажытай страшэннай вайны...

Толькі ўсмешка гарэзная...
Белае плацце...

Дык няўжо пастарэла так мая маці?!.
Я на фота глядзеў і адно разумеў:
Не, не маці мая...
Гэта я пастарэў...

## СКАЗАЛА МАЦІ

Сказала маці: "Не аглядайся,
Як з хаты выйшаў..."
Сказала маці: "Хутчэй вяртайся,
Паспеюць вішні..."

Не азірацца? Хацеў спытацца,
Што гэта значыць?
Ляцелі пчолы на цвет акацый.
Я — на удачу.

Вілася сцежка за белым гаем,
У спелым жыце.
Ці я спаткаю, чаго шукаю?
Што з мяне выйдзе?

Схмурнела далеч за бранскім лесам,
Грымяць грамніцы.
Я прыгадаю сваё Палессе
І звон крыніцы.

І хоць жыву я без аглядак,
Ўсё ж азірнуся
На вокны хаты, роднай хаты
На Беларусі...



# ДАРОГІ ПАЛЕССЯ

**Дарогі Палесся мяне зачаруюць,
Спынюся ля вёскі за ціхай ракой...**



## ДАРОГІ ПАЛЕССЯ

Дарогі Палесся мяне зачаруюць —
Спынюся ля вёскі над ціхай ракой.
Завечарую, завечарую,
Як стомлены човен за асакой.

Схілюся над чыстай, празрыстай крыніцай.
Кувае зязюля бясконца гады.
І пахнуць суніцы, і пахнуць суніцы,
І месяц у небе такі малады.

У гэтых мясцінах складаюцца песні...
Спытайце — адкажуць: "А што іх складаць?"
Дарогі Палесся, дарогі Палесся,
Як птушкі у вырай, удалеч ляцяць...

## БУСЛІНЫЯ БЕРАГІ

Адну мясціну на зямлі прыкмеціў,
Адну мясціну вельмі палюбіў:
Буслы клякочуць, як нідзе на свеце,
Шуміць паветра ад узмахаў крыл.

Буслы, буслы над лугам і ракою,
Буслы, буслы над засенню дубоў.
Таемнай незвычайнай цішынёю
Павее ад Бусліных Берагоў.

І дзе б ні быў: ці блізка, ці далёка —
Сюды заверне мой вандроўны шлях.
Ускалане абсяг бусліны клёкат —
Стаяць, як вартавыя, на дубах.

І ўбачу Русь...
Дубы старажавыя.
Застава аглядае далячынь.
Тупыя орды жорсткага Батыя
Не заляцяць у сумную Хатынь...

А ў завадзі світальныя лілеі,
Як на Купалле рукі берагінь...

Ці захаваць я на вякі сумею
Бусліныя юнацтва берагі?..

## ПАЛЕССЕ

Вечарэе Палессе. І туманяцца рэкі.
І ў сутонні паромы павольна рыпяць.
І дзявочыя песні далятаюць аднекуль.
І агні ў шызых далях таемна гараць.

На зялёных лугах ходзяць вольныя коні.
Галасы перапёлак у жыце густым.
На бярвеннях ля хат уздыхаюць гармоні.
І плыве над зямлёй маладзік малады.

Цішыня... Цішыня...
Дзе сустрэнеш такую?
Дагарае заход ля рыбацкіх кастроў.
І апошнюю песню зязюля кукуе,
Развітальную песню сунічных бароў.

На Палессі закончана сёння работа.
Поўны цэбар вады на сябе палахнеш.
На часіну адыдуць зямныя турботы.
І прымроіцца штосьці далёкае ў сне.

Ах, як соладка спаць пад павеццю на сене...
Ноч ахутае цемрай густой далячынь.
І ніводнага гуку. Спакой задуменны.
Толькі зрэдку сабака забрэша ўначы.

Ды ў суседнім сяле адзавецца таксама.
І пагасне святло ў адзінокім акне.
І суціхне паром у надрэчным тумане.
І апошнім стамлёны паромшчык засне...

## ЖУРАВЕЛЬ

Над вячэрняй ракой узнімалася поўня.
Плыў па скошаных травах дрымотны туман.

Халадзеў ад расы пераверануты човен
І стамлёны работай шумны дзень адступаў.

Рыхтавалася ноч цемрай далеч ахутаць.
Раптам крык адзінокі данёсся з вышынь.
Над палескай ракой, даганяючы сутань,
Журавель галасіў на ўсё неба адзін...

Ён самотна крычаў над бялёсым туманам.
І знясілены крык патанаў уначы.
Ці кагосьці гукаў? Ці яго хто параніў?
Я глядзеў яму ўслед і не мог памагчы...

А па небе плыла вялічэзная поўня,
Асвятляючы шлях, асвятляючы шлях,
І знікаў назаўжды, прападаў у сутонні
Над шырокаю поймай восеньскі птах...

## ВОЛЬНЫ КОНЬ

Вольны конь
Праскакаў па дарозе.
Вольны конь
Над вячэрняй ракой.
Не.
Нікольկі.
Зусім не здалося.
Бачыў я:
Гэта быў
Вольны конь.

Ён скакаў
Па туманах і росах.
Ён ляцеў,
Як шалёны віхор...
Каб і мне
Хаця б раз
Без возу
Сігануць
У бясконцы прастор...

## ПАРОМШЧЫК

Начны паром сустрэў агнямі.
Трос напінаўся, трапятаў.
Над Прыпяццю, над паплавамі
Дождж непраглядны навісаў.

Паромшчык, стомлены і хмуры,
Глядзеў праз дождж на бераг той.
Дзе спаў даўно ягоны Тураў
Над закалыханай ракой.

Цыгарка пыхкала надзеяй,
Што хутка будзе цёплы дом.
А дождж скакаў, як звар'яцелы.
Рыпеў прастуджана паром.

Павольна бераг набліжаўся.
Брызент прамок. Так дзень пры дні.
"Даўно паромшчыкам?" — спытаўся.
Акурак сплюнуў: "Ад вайны..."

І я засмучана падумаў,
Ці маю гэткую любоў?
Па свеце столькі не вандрую,
Як ён між гэтых берагоў.

Я іншы раз на лёс з дакорам.
А што паромшчыку казаць?!
Нязлосна вылае надвор'е —
І будзе зноў пераплываць...

## СУНІЦЫ

Супыніліся хлопцы на сунічнай паляне.
Злез Каўпак з варанога каня:
"Эх, не век жа нам тут партызаніць".
І схіліўся у водсветах дня.

Як віхор, наляцеў ён на фрыцаў.
Пасля бою астыць не паспеў —

На далоні ірдзелі суніцы...
І маршчыністы твар святлеў.

Што успомніў? Сваю Украіну?
Маладыя гады? Вечары?
Галасістыя песні ля тына?
... Ціха-ціха ў палескім бары.

Закурылі стамлёныя хлопцы.
Жарты. Смех наўздагон.
Бор глухі
Слухаў, слухаў бы іх бясконца...
Зноў баі і начныя шляхі.

І параненым спуджаным птахам
Упадзе цішыня ў трысцё...
А суніцы нясцерпна пахнуць,
Ах, як пахнуць мірным жыццём!..

## СТАРЫ РЫБАК

Вылье з чоўна ваду рыбак,
Адпіхнецца вяслом ад берага.
Зловіць што?
Ці прыедзе так?
Невядома,
Што лёс адмерае...
Хоць адмераў усё даўно.
Жыў,
Як рыба хвастом не плёскаў...
Засталося толькі адно:
Выбраць месца за ціхай вёскай.
І няхай сабе баба бурчыць:
"Кіснеш, дурань, над гэтай вудай..."
Уздыхне...
А ў душы карціць
Спаймаць рыбіну
На паўпуда.
Адпіхнецца блакітным вяслом.
Між лілей яго човен спыніцца.

І застыне над паплаўком,
Пра жыццё сваё ў думках здзівіцца:
"Не прыкмеціў,
Калі і прайшло...
Спадзяваўся на лепшую долю.
Што я маю?
Хіба вясло,
Фарбаванае ў сіні колер?
Колькі, колькі асенняй парой
Праплыло журавоў пасівелых.
Адкурлыкалі ўсе нада мной,
Анічога не ацалела..."
Не уздыме сівой галавы
І не ўскрыкне ў роспачы шчырай:
"Журавы, журавы, журавы,
Забярыце з сабою у вырай..."
Сонца спусціцца за сяло,
Будзе крочыць стары ў тумане,
Будзе несці сваё вясло,
Як апошняе спадзяванне...

## ДЗЕД ФЯДОС

У Ліплянах зайду да знаёмага дзеда,
Пра жыццё запытаю ў яго.
Дзед дастане кісет, згорне дзед цыгарэту,
Памаўчыць... І ўздыхне: "Нічага..."

Мы пагутарым з ім, пасядзім каля хаты,
Паглядзім на шырокі разліў.
І ўздыхне дзед Фядос, быццам ён вінаваты:
"Дождж навокал усё затапіў..."

Я ж яму так і сяк, што па гэтых турботах
Нам яшчэ з ім сто зім зімаваць...
Галавой паківае, усміхнецца самотна,
І ўздыхне: "Мне пара паміраць..."

## ЛІПЛЯНЫ

Цветам ліпавым ліпень дурманіць.
Звонка пчолы над борцю гудуць.
Цераз мосцік жардзяны — Ліпляны.
Непрыкметна тут людзі жывуць.

Жменька хат па-над самай вадою.
Сохнуць лодкі на смольным баку.
Ля варот пад старою сасною
Спяць каты на зляжалым стажку.

Цішыня...
Толькі гусі праз рэчку
З гагатаннем павольна плывуць
І на сцежку з-за плота сланечнік
Нізка звесіў сваю галаву.

Сэрца раптам заб'ецца шчымліва:
Вось прайду, азірнуся — і ўсё...
Знікне гэтае простае дзіва
У тумане блакітных лясоў...

## ПЧАЛЯР

Калісьці жыў у вёсцы дзед Мікола,
Для ўсёй акругі борці ён рабіў.
Раіліся над ім, звінелі пчолы.
Кідалі цень высокія дубы.

Вялізныя пчаліныя калоды
Ад раніцы да вечара гулі.
І зіхацелі сонечныя соты
Над борцямі у суцемках галін.

Жыў ён адзін. Нікога за душою.
Адна і радасць — пчолы цэлы дзень.
Маўклівы. Абуджаўся ён вясною.
Зімою сіратліва халадзеў.

Усюды — ці грачнёвыя пасевы,
Ці кветкамі гарэла сенажаць —

Ён ставіў борці новыя на дрэвах.
Не паспявалі пчолы абжываць.

А вечарамі ён дымар распальваў
І борці на пакосе аглядаў.
... Стаяла восень. Верас развітальна
Каля дарог за вёскай палыхаў.

Мёд верасовы, кажуць, вельмі горкі...
Сарваўся з дуба з дымаром пчаляр.
І доўга вераснёвым надвячоркам
Дыміў над ім засмучана дымар...

Калісьці жыў у вёсцы дзед Мікола —
Пчаляр і бортнік быў такі адзін...
Звіняць і сёння залатыя пчолы
Над борцямі у суцемках галін...

## СВІТАЛЬНАЯ ІВАЛГА

У сонечных росах
Сцяжынка лясная
Прапахла мядовай
Густой цішынёй.
У ліпеньскім лесе
Пра што мне спявае
Світальная івалга
Над галавой?..

Ці, можа, пра вёсны,
Далёкія вёсны,
Што бэзам духмяным
Даўно адцвілі?
Ці, можа, пра сосны,
Высокія сосны,
Што днямі ля хаты
Шумелі, гулі?..

Блукаў я па свеце,
Шукаў сабе долю...
Шчаслівую долю,

Я думаў, знайду...
А івалга пела
Пра шчасце і волю.
Я думаў, што песню
Такую ж складу...

Ні долі, ні волі,
Ні шчасця, ні песні...
І толькі са мною
Дарогі мае
Ды голасам росным
У ліпеньскім лесе
Світальная івалга
Песню пяе...

## ЧМЕЛЬ

Пракрапаў дождж цыганскі, зіхатлівы.
І на траве прыкмеціў я чмяля.
Сушыў на сонцы залатыя крылы.
І дыхала з палёгкаю зямля.

А ён злаваў, напэўна, чартыхаўся,
Дэтальна аглядаючы матор.
Старанна да палёту рыхтаваўся:
Яго чакаў асветлены прастор.

Яго чакалі травы лугавыя,
Чакалі кветкі колераў любых.
А перш за ўсё чмяліхі маладыя
Жадалі стрэч... Я разумею іх.

Такі прыгожы, малады, рухавы.
Як не любіць? І мёду прынясе...
Трапеча ён на крылах гучнай славы
Ва ўсёй чмялінай баявой красе.

Ну што ж, ляці... Дабра табе жадаю.
Хаця я горай за цябе жыву:
Ты першым кветкі ў лузе аблятаеш,
А я пасля іх для дзяўчыны рву...

## НА ЛЯСНЫМ ХУТАРЫ

На лясным хутары
(Доўга буду я помніць)
На зялёным двары
Захліпнуўся гармонік.

Вельмі дзіўны матыў,
То хутчэй, то паволі,
Па-над хатамі плыў
За жытнёвае поле.

Сумавалі басы.
І душа замірала.
І рыпелі вазы
Ля рачной пераправы.

Плыў блакітны паром
Па таемным Палессі.
І спявала гармонь.
І прасілася песня.

## ШЭРАЯ ЧАПЛЯ

Шэрая чапля з ляснога балота
Ценем мільгнула над цёмнай вадой.
Устрапянулася жоўтая лотаць
Разам з маёю вандроўнай душой.

Крыкам спалохала сонны світанак —
Сонца заззяла ў зялёным акне...
Знаю, гняздо тваё там, за туманам,
У гушчары, на высокай сасне.

Асцерагаешся вока людскога.
Можа, і лётаеш толькі ўначы?
Шэрая чапля, мільгні над дарогай,
Дзівам языцкім услед пракрычы...

## ЖНІВЕНЬ

Задымлены касцёр
Над скошанаю нівай.
Пажоўклае лісцё
Зрывае сонны жнівень.

І соснаў доўгі цень
Кладзецца на дарогу.
І дагарае дзень
За парыжэлым стогам.

І качак ланцужок
На апусцелым плёсе.
І кружыцца лісток,
Як напамін пра восень...

## ПЕРАД ДАЖДЖОМ

Перад дажджом суцішыўся мой бор.
А ўсё шумеў, шаптаў, пераклікаўся,
Далёкім рэхам звонка адгукаўся
І смех кідаў у ранішні касцёр.

Нахмурыўся, разгублена маўчыць,
Бы спахапіўся: гэты дождж надоўга,
І што ад лета ўчора ён ключы
Згубіў за лесьнічоўкаю ля стога.

І дождж пайшоў. Спачатку ціхі, дробны,
А потым узмацніўся.
Лес хмурнеў:
Ён шкадаваў, што на пакосе ў копны
Сухое сена скласці не паспеў...

## ВЯЧЭРНІ БОР

Вячэрні бор у промнях залаціцца,
Вячэрні бор, як полымя ўначы.
Звініць ля сцежкі светлая крыніца.
Цвітуць, цвітуць на схіле касачы.

Блакітныя, як неба нада мною.
Мядовы дзень чмялём яшчэ гудзе.
А з нетраў бору ночку за сабою
Змрок, як каня, на повадзе вядзе.

Вячэрні бор, наліты цішынёю,
Стамлёны і задумны, як лясун,
У суцемках ківае галавою,
Губляючы дрымотную расу...

## ЛЯСУН

У гушчары ля самага балота
Жыве лясун ссівелы і стары.
Замшэла барада, нібы калода.
Сярмяга яго сплецена з кары.

Ні промень не праб'ецца. Ні прахожы
Не пройдзе тут. Не любіць ён людзей.
Ён з раніцы да вечара варожыць
На чорнай застаялае вадзе.

То круціць пальцам, доўгім і касматым,
То зарагоча, нема закрычыць,
Завухае, як філін... Ці зацята
І стоена падоўгу ён маўчыць.

Ён любіць цішыню у вечных нетрах,
Калі нішто не патрывожыць сон,
Не варухне галінкай нават ветрык —
Тады дрымоту наганяе ён.

Але калі ён злосны і сярдзіты,
То бор сасновы навакол шуміць.
І дрэвы стогнуць над жыццём пражытым,
Калі ў грудзях у лесуна баліць.

Ён сцеражэ гушчар свой непраходны,
Ён беражэ адвечны свой спакой,
Стары лясун за багнаю балотнай,
Сівы лясун з замшэлай барадой...

## ЗЯЛЁНАЯ ВОСЕНЬ

*Рыгору Андрэяўцу*

То сеецца дождж<br>ык, па лісці сячэ,
То сонца асвеціць сцюдзёныя росы,
Не лета ужо. І не восень яшчэ.
Няма больш цяпла. І далёка марозы.

Зялёная восень у госці прыйшла,
Калі маладосць заблудзілася недзе,
А старасць яшчэ ля чужога двара,
А старасць на шэрым кані яшчэ едзе.

То жоўты лісток, то зялёны лісток...
Вось так і душа мая колеру рознага —
То светлы радок, то самотны радок,
То змрочны і стылы, калі восень позняя.

Зялёная восень стаіць на двары.
Як пахне грыбамі у ранішнім лесе!
Як пахне ігліцай у мокрым бары!
Зялёная восень прыйшла на Палессе.

І хай павуцінка мне скроні кране,
Я гляну ў люстэрка — а, можа, здалося?
Нібы маладосць, за акном прамільгне
Зялёная восень, зялёная восень...

## ДНІ МАЕ ЗАЛАТЫЯ

*Юрыю Фатневу*

Дні мае,
Дні мае залатыя,
Што ж над поймай,
Як гусі, крычыце?
Што так хутка,
Так хутка ляціце,
Дні мае,
Дні мае залатыя?
У цішы,

У цішы вечаровай
З болем,
З болем шапчу,
Як замову:
"Дні мае,
Дні мае залатыя..."
Можа, восень
Інеем стыне?
Ці ў душы ўжо
Дажджы праліўныя?
Дні мае,
Дні мае залатыя...
Вас губляю
Ў абразлівым быце,
Мітусні
І штодзённых чэргах...
Нельга,
Жыць гэтак нельга,
Нельга...
Дні мае,
Дні мае залатыя...
На Палессе
Душою імкнуся,
Дзе гагочуць
У Лельчыцах гусі
І ля Убарці
Хлопаюць крыламі.
Там усё мне
Такое мілае...
Дні мае,
Дні мае залатыя,
Дзе вы, дзе?
У далёкім нябыце?
Ці над поймай,
Як гусі, крычыце
І злятаеце
Ў травы густыя?
Дні мае,

Дні мае залатыя...
Залатыя...

## ВЕРАСЕНЬ

Плыве туман над скошанаю нівай.
Па росных сцежках верасень брыдзе.
І халадзее сумам жураўліным
Апошняя лілея на вадзе.

Ліст залаты на срэбнай павуціне
Гайдаецца над цёмнаю вадой.
І восень у зялёных вершалінах
Вавёркаю мільгае маладой.

Сумненняў час, час роздуму прыходзіць,
Час прасвятлення даляў і душы.
Які спакой у восеньскай прыродзе!
Якая таямнічасць у цішы!

## УЗВІЖАННЕ

На Ўзвіжанне спаўзаюцца вужы
Па сцежках таямнічых на паляны.
Гадзюкі свае чорныя крыжы
На гульбішча нясуць неспадзявана.

Яны паўзуць, каб выстылую кроў
У танцы разагрэць. І так спрадвеку.
Ахоўнікі запыленых вякоў
І змрочных таямніцаў чалавека.

Яны паўзуць па сцежках і шляхах,
Каб перад спячкай злосць сваю спатоліць.
Спаўзуцца і сплятуцца... І ў клубках
Ўжо будуць наракаць на сваю долю.

У гэты дзень і людзі, і звяры
Іх абмінаюць: ведаюць іх нораў.
Свой танец яны спыняць на зары
І распаўзуцца па глыбокіх норах...

## КРУМКАЧ

У цёмным восеньскім бары
Над векавым пагоркам
Крумкач крумкоча угары
Пранізліва і горка.

Вякі, як чорныя чаўны,
Праз нетры праплываюць.
І сосны звоняць, як званы,
Над вечаровым граем.

Ён раптам крылы распасцёр,
Даўгія, як дарогі.
І чорным ценем цёмны бор
Накрыў... І крыж трывогі

Паўстаў... Маліцца?
Ці шаптаць
Языцкую замову?
А дрэвы, дрэвы ўсё рыпяць
Над крыкам крумкачовым...

## ДУБ

Гэты дуб, не крануты шчэ восенню,
Зелянее між вогненных дрэў.
Серабрыцца на досвітку росамі,
Векавы свой люляе напеў.

Ён пазней пажаўцее. Заснежаны,
Будзе лісце далоў атрасаць,
І завеяй сярдзітай усцешаны,
Нібы дзед, будзе ціха драмаць.

Пасівелы, стары, у падпалінах,
Ажыве ён зялёнай вясной.
Будзе лісцем шумець на прагаліне
І лагодна ківаць ґалавой...

## ЛЯСНАЯ ДАРОГА

Лясная дарога у лісці пажоўклым
Мне штосьці шапоча пра гэтыя дні.
У сонечных промнях. Яшчэ не прамокла.
Настоена хмельным віном цішыні.

То зверне ў арэшнік, прапахлы грыбамі,
То кінецца ў гай да высокіх дубоў,
Што сыпануць на яе жалудамі,
То ў бор векавы яна выведзе зноў.

То ціха абкружыць бярэзнік і пожню
І спыніцца раптам ля звонкай вады,
Дзе выдыхне стому на бераг мурожны
І змые з сябе шэры пыл і сляды.

А потым, бадзёрая, выбежыць зноўку,
Пакліча ў таемны і шызы прастор...
Лясная дарога у лісці пажоўклым
Мне штосьці шапоча пра восеньскі бор.

## ПАЧУЕЦЦА МУЗЫКА

Пачуецца музыка ў лесе асеннім.
Жалейка? Ці флейта? Ці шум баравы?
І светлыя цені — мае летуценні
Лістком залатым мільгануць між травы.

Хіснецца мая затравелая памяць,
Адклікнецца рэхам мінулых гадоў.
Лісцёвая замяць, лісцёвая замяць
Нашэпча мелодыю восеньскіх слоў.

І музыка ўспыхне, нібы азарэнне,
Самотнай слязінкай прапаліць душу.
Пачуецца музыка ў лесе асеннім,
У шораху лісця і шэпце дажджу...

## Я СЛУХАЎ СОСЕН ШУМ

*Алесю Шэліпаву*

Я слухаў сосен шум у восеньскім бары.
І вецер налятаў, гайдаючы вяршыні.
І адклікаючыся, недзе угары,
Між воблакаў, плыў гоман жураўліны.

Стаяла ціхая асенняя пара,
Пара любові, роздуму і суму.
Рабінаю чырвонай ля двара
Гарэлі мае выстылыя думы.

Я гэтым цёплым радаваўся дням,
І шкадаваў, што не паўторацца ніколі
Ні восень гэтая, ні гэта цішыня...
Я слухаў сосен шум, сумуючы аб волі...

## ЖУРБА

Над шляхамі асеннімі
Пракрычаць журавы,
Лягуць сумнымі ценямі
На мае паплавы.

Пад дажджамі халоднымі,
Супраць стылых вятроў
Ім ляцець з краю роднага
Да чужых берагоў.

Будзе сонца ім, сонца ім
На чужыне свяціць...
Але ўспомніцца, ўспомніцца:
Журавіна бясконцая
На Палессі гарыць...

## АСЕННІ ПТАХ

Падкінь, шафёр, да Баравога.
Там па дарозе на Тартак
У трыснягу за шызым стогам
Крычыць самотна нейкі птах.

Даўно ўсе птушкі адляцелі.
Апошні ліст далоў апаў.
А ён, чакаючы мяцеліц,
Крычыць сярод балотных траў.

Самотны птах, я вось таксама
На цёплы поўдзень не лячу,
Блукаю ў восеньскіх туманах,
Адзін, як ты, сваё крычу.

Мне твае боль і адзінота
Так зразумелы, сумны птах.
Давай паплачам ля балота,
Што па дарозе на Тартак...

## СВЕТЛАЯ ВОСЕНЬ

Светлая восень.
Пара лістападу.
Сцішаны шэпат бяроз.
Лісцем засыпана
Сцежка ля хаты,
Двор
І заезджаны воз.

Конь
На зялёнай азіміне
Белы.
Конюх з аброццю брыдзе.
Сэрца заб'ецца...
Душа агрубела.
І ўжо няма тых надзей.

Адшалясцелі,
Адшалясцелі

Мары,
Чаканні,
Гады...
І ліставеі,
І ліставеі
Зацерушылі сляды.

Так вось жыццё
І пратупаў ля коней.
Ні ўзнагарод,
Ні падзяк,
Ні вымоў...
Гладзіў іх пысы
Шурпатай далоняй,
Асцерагаў ад ваўкоў.

Ўсё праляцела.
Як тыя калёсы,
Хутка сваё дарыпіць...
Конь на азіміне.
Светлая восень.
Лісце бяроз
Шалясціць...

## АПОШНІ ПАЛЕСКІ ПАРОМ

Ах, апошні палескі паром,
Цераз Прыпяць дазволь пераправіцца.
Парыпі пад асеннім дажджом
На растанне засмужанай раніцай,
Парыпі пад асеннім дажджом,
Мой апошні палескі паром...

Прыпяць, бакены, коні, чаўны —
Ўсё апошняе і незваротнае...
Мы з табой на пароме адны.
Дык чаму ж ты такая самотная?
Мы з табой на пароме адны...
Прыпяць, бакены, коні, чаўны...

Чуеш, недзе крычаць жураўлі?
Вунь ляцяць над замглёнаю пожняй
На апошняй вось гэтай зямлі...
Дай жа Бог, каб былі не апошнія
На апошняй вось гэтай зямлі...
Чуеш, недзе крычаць жураўлі?..

Як паэзіі мала ў жыцці...
Мы ж апошняе не зберагаем.
Нібы вецер у мокрым трысці,
Плача-плача душа ад адчаю,
Нібы вецер у мокрым трысці...
Як паэзіі мала ў жыцці...

Ах, апошні палескі паром,
Буду клікаць у шэрым тумане.
Пад халодным асеннім дажджом
Парыпі, парыпі на растанне
Пад халодным асеннім дажджом,
Мой апошні палескі паром...

## ЯНІНА

За вокнамі гронкі рабіны
Гарацць, нібы вусны дзяўчыны.
Лістком залатым на галіне
У шыбіну б'юцца ўспаміны:
Яніна...

Пад восеньскім небам Айчыны
Блукаю па мокрых сцяжынах.
А там, на лясных балацінах,
Збірае, відаць, журавіны
Яніна...

За шэрым засмучаным тынам
Зіхціць на траве павуціна.
Над шляхам у далечы сіняй
Трапечацца крык жураўліны:
"Яніна..."

Я знаю, настане часіна,
Калі мая зноў пуцявіна
Праляжа праз тыя мясціны.
Гукну ля знаёмай хаціны:
"Яніна..."

За вокнамі гронкі рабіны.
Блукаю пад небам Айчыны.
Трапечацца крык жураўліны.
Я знаю, настане часіна...
Яніна...

## ПАНІ МАРЫСЯ

Снег белы-белы
Падаў, кружыўся.
Песню мне пела
Пані Марыся.

Дальні паўстанак.
І воблік мілы.
Польшча, як панна,
Запаланіла.

Зачаравала
Готыкай строгай.
За пераваламі
Ўецца дарога.

Там, за гарамі,
Родныя гоні.
Скачуць палямі
Снежныя коні.

Ах, ясны месяц,
Выйдзі з-за хмары.
Сумная песня.
Смутак на твары.

Польшча. Палессе.
Хоць разарвіся.

Снег белы. Песня.
Пані Марыся.

## КАСЦЁР НА ДАЛЬНЯЙ СТАРАНЕ

Я жыў ля Любенскага возера,
Я быў шчаслівы, малады.
И за лістком барвовай восені
Плылі, як ветразі, гады...

Любіў блукаць я на змярканні,
Сядзець на стомленым чаўне.
Гарэла вогнішча ў тумане
На той далёкай старане...

Цыгане пелі свае песні
Гартанна, звонка над вадой.
І зорка падала за лесам
Пякучай светлаю слязой...

Іржалі коні за дарогай,
Свяціліся ў дамах агні.
Да самай ночы доўга-доўга
Цыгане пелі ўдаліні...

Я сёння часта ўспамінаю:
Лісток трапечацца ў акне.
І ў цемры зыбкай дагарае
Касцёр на дальняй старане...



# ПЯРО ЗЯЗЮЛІ ПАДНІМУ

Пяро зязюлі падніму,
Як лёс Айчыны...



## ПАЭМА СТАЛА

*У. І. Кагуценку*

Стол у хаце —
Ўсяму галава,
У чырвоным куце
Пад бялюткім абрусам.
Помню, гэты абрус
Ткала бабка Улляна,
Мая ціхая бабка,
Сівая, як лунь.
Толькі ён ад яе
І застаўся на памяць...
Як даўно пажаўцела
Маленства трава.
Дні юнацтва зляцелі,
Бы шэрыя гусі,
За бярозавы гай,
Дзе на светлых палянах,
Нібы рэха, блукае
Лісцёвая замяць,
Замятае сцяжынкі
І сонную рунь...
Я маленькі хлапчук,
Я сяджу за сталом
І чытаю буквар
Пры газніцы.
А маці
Вышывае ручнік
(І шывок за шыўком
Нітка шчыльна кладзецца
Чырвонаю гладдзю).
Быццам лёс вышывае,
Гаротны свой лёс...
За марозным акном
З пацямнелых нябёс
Ціха падае снег,
Такі чысты і белы.

Над варотамі зорка гарыць.
Не парвалася б
Памяці ніць...
Я сяджу за сталом.
Лямпы шкло закурэла.
Я чытаю буквар,
Я вучуся жыццю...

Святы вечар. Каляды.
Маці ставіць куццю
На духмянае сена.
Мы садзімся за стол.
Маладзік летуценна
Зазірае ў акно.
Маці стукае ў шыбу
І тройчы гукае:
"Мароз, мароз,
Ідзі куццю есці,
А летам не бывай..."
Адгукаецца дзесьці
Замарожаны дол
Ці заснежаны гай?
Я мароза у госці чакаю.
Пад акном "Шчодры вечар"
Спяваюць
Калядоўшчыкі...
Маці выносіць
Каўбасу і гарэлку.
Хлопцы, дзеўкі
Смяюцца на ганку
І вясёлай гурбою
Кіруюць далей.
Я гляджу,
Адхінуўшы фіранку...

Праз гады
І самоту завей
Я таксама мароза гукаю.
Сын глядзіць мой на дзверы.
Добра як, што ён верыць.

Стол засланы абрусам,
Што застаўся ад бабкі
На памяць.
Кружыць снежная замяць.
Я сяджу за сталом,
Свой ручнік
Вершаваным радком
Вышываю.
Што складзецца і як?
Я нічога не знаю.
Я сяджу за сталом.
Гэты стол змайстраваў
Дзядзька Жэня,
Сусед наш,
Сталяр адмысловы.
Як старанна, з любоўю
Ножкі ён выразаў,
Габляваў.
(Так бы мне габляваць
Свае словы...)
Як даўно ён сышоў
На пагост...
З цёмных стылых нябёс
Снег ляціць.
Не парвалася б
Памяці ніць...
Я сяджу за сталом
І маленства сваё ўспамінаю.
А гады, як сумёты,
За марозным акном...
Як іх многа ужо намяло,
А я ўсё шчэ вучуся жыццю...

Жонка ставіць куццю
На духмянае сена.
Мы садзімся за стол.
Бог з іконы глядзіць.
Як мне хочацца
Светла пражыць...

Углядаюся ў цемень акна
І мароза гукаю:
"Мароз, мароз,
Ідзі куццю есці,
А летам не бывай..."
Адгукаецца дзесьці
Замарожаны дол
Ці заснежаны гай?
За акном
Снег павольна ляціць.
Не парвалася б
Памяці ніць...
Сын сядзіць за сталом,
Свой ручнік
Вершаваным радком
Вышывае...

## ВАНДРОЎНІК

Ад Радзімы,
Якой ні была б,
Не адракуся ніколі я...
Плачуць над восеньскім полем
Вятры,
Што не знаюць цяпла,
Студзяць,
Заходзяцца болем,
Клічуць зіму на парог.
Крочыць па струнах дарог,
Стомлена гэтак ступае
Нейкі вандроўнік з кійком...
Нібы з далёкіх вякоў,
Трубіць над поймаю рог,
Ціхім пранізвае жалем.
І адклікаецца далеч
Ветру выццём
Ці ваўкоў?
Крочыць вандроўнік з кійком...
Хто?

Не пазнаць аніяк.
Брэх на падворку сабак.
Хто там у цемры блукае,
Стукае ў шыбы,
Гукае?
Збіўся з дарогі?
Ці што?
Хто?
Ціха у хаце.
Моліцца маці.
Свечкі запаленай німб.
Лікі святых з абразоў
Сочаць, здаецца...
"Божа,
Пашлі нам усім
Веру, надзею, любоў..."
Полымя б'ецца,
Нібы начны матылёк.
"Божа,
Пашлі мне радок
Шчыры і светлы..."
Грукае, шоргае ветрам
Зноў аканіцу.
Нешта не спіцца.
Ціха ступаю
На мокры парог.
"Хто там?" — пытаю.
Чую — ўздыхае.
Крочу за браму.
Мокне за жэрдкамі стог.
"Мама,
Тут нехта стаіць..."
А ў адказ мне дрыжыць
Голас азяблы:
"Вопратку дай прасушыць,
Ногі закляклі..."
"Ну дык заходзь,
Гэта гасцінны парог.

Хто ты?.."
"Радзіма...
Надзей і трывог..."

## ПАДАРОЖЖА З МІКОЛАМ ГУСОЎСКІМ

Хай жа Мікола Гусоўскі будзе ў тым сведкам
(Доўга мяне ён праз нетры палескія вёў):
Край быў асветлены чыстымі ціхімі рэкамі
І абуджаўся на золку рыкам рахманых зуброў.

Змрок панаваў на сцяжынах лясных і дарогах.
Промень ледзь-ледзь прабіваўся
праз кроны разгалыя дрэў.
Дух валадарыў над пушчаю Бога ляснога.
Бураю дуб абламаны пад ветрам парыўным рыпеў.

Дробныя птушкі спявалі ў кустоўях ляшчыны.
Дзікія пчолы ля дуплаў гудзелі ўгары.
Рысь выглядала ахвяру... І між ажыны
Сцежкі таптaлі да вадапою звяры.

Пушчы палескія...
Доўга з Гусоўскім я ехаў.
Рог паляўнічы на ловы мяне заклікаў.
Брэх ганчакоў. Екатала спалохана рэха.
І ў гушчары над дарогай калматы лясун рагатаў.

Край першабытны...
Убарць згінала свой локаць
І зіхацелі лілеі на цёмнай вадзе.
Рог паляўнічы спяваў... І далёка-далёка
Век мой гаротны вініўся на страшным судзе...

## ЯЗЫЧНІК

Як толькі сонца ў небе дагарыць
І на лугі апусціцца змярканне,
Над Убарцю у восеньскім бары
Ля вогнішча пачну я валхаванне...

Язычнік я...
З даўнішніх тых вякоў
Застаўся на зямлі адзін язычнік...
Забылі вы даўно сваіх Багоў,
Мяне вам слухаць будзе непрывычна.
Язычнік я...
Мае Багі са мной.
Не на іконах пісаныя лікі.
Вось Неба з незвычайнай сінізной,
Такое неабсяжнае, вялікае...
Малюся Небу, Сонцу і Вадзе,
Малюся Ветру вольнаму і Птахам...
О, колькі на Зямлі маёй людзей
Пайшло за Веру на касцёр і плаху!..
Язычнік я...
Малюся я Зямлі,
Малюся Чалавеку я і Зверу...
А вы якую Веру прынялі?
Ці вам жывецца добра і без веры?..
Язычнік я...
Адзін на ўсёй Зямлі,
Апошні я...
Апошні і нявечны...
О, людзі, як зярняты для раллі,
Вы захавайце Веру ў Чалавечнасць...
Язычнік я...
Чарую я ўначы,
Калі туман ахутае дуброву
І тройчы філін Дзівам пракрычыць —
Я прашапчу патрэбныя мне словы...
Язычнік я...
Ахоўваю спакой.
Гары, агонь, да самага світання.
Хай з шызым дымам над лясной ракой
Плыве удалеч песня валхавання...

Язычнік я..

## РАДАЎНІЦА

На Радзіме маёй старажытны ёсць звычай:
На магілы да продкаў прыходзіць вясной.
Гэты дзень настае...
І нас быццам хтоськліча.
Сцелем белы абрус, тканы ўмелай рукой.

Пасярэдзіне пасха — царыца ў кароне.
Фарбаваныя яйкі, каўбасы, тварог.
Чарка кругам абыйдзе — і радня загамоніць,
І гарэлкі ліне на магільны мурог.

І, здаецца, пачую голас бабкі Улляны,
З ёю побач прысядзе яе ціхі Міхей.
Прыйдзе бацька Захар, дзядзька Федзя загляне.
І зноў чарка па крузе ўсіх абыйдзе людзей.

Вечны сон адляцеў... Адпусціла сяліба,
Як пачулі яны: нехта помніць пра іх...
І на гэту гамонку паціху прыклыпае
Дзед Карней па-суседску ў валёнках старых.

А за імі прымрояцца даўнія лікі.
Наплываюць чаўны паўзабытых плямён.
Ўся Славяншчына тут...
Хто іх, хто іх паклікаў?
Нібы рысы жыцця перасеклі далонь...

Гэта памяць жывых сёння, сёння іх кліча...
Ўся Славяншчына тут...
Жыць адзінай сям'ёй...
На Радзіме маёй старажытны ёсць звычай:
На магілы да продкаў прыходзіць вясной...

## ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ

Як працяжна спяваюць жанчыны
На раскрэсах за ціхім сялом.
І над полем, над жытам азімым

Яркім неглюбскім ручніком
Песня сцелецца на пуцявіны:

"Ты ляці, страла, дый уздоўж сяла,
Ой лі, вой люлі, дый уздоўж сяла...

Як патрапіла ў добра молайца,
Ой лі, вой люлі, ў добра молайца...

Па тым молайцу плакаць некаму,
Ой лі, вой люлі, плакаць некаму...

Маці старанька, сёстра маленька,
Ой лі, вой люлі, сёстра маленька...

Панясу стралу, дый у жыцейка,
Ой лі, вой люлі, дый у жыцейка...

Закапаю там ля дарожанькі,
Ой лі, вой люлі, ля дарожанькі...

Ты ляжы, страла, не крані сяла,
Ой лі, вой люлі, не крані сяла..."

Маладзіцы і дзеўкі ў панёвах,
У расшытых андараках
Ускрай жыта па травах шаўковых
Стужкай срэбнага раўчука
Карагод свой вядуць вечаровы.

І над шляхам плыве шматгалоссе.
Ад бяды, ад напасці і зла
Да зямлі прыгінаюць калоссе...
"Ты ляжы, залатая страла..." —
Не спяваюць ужо, а галосяць...

І ўжо вогнішча воддаль дыміцца,
І агонь хутка танец пачне.
І дзяўчаты ў чырвоных спадніцах
Заспяваюць вітанне вясне.
І падхопяць услед маладзіцы...

І з прыпеўкамі ў вёску, са смехам
Пацякуць... Я вянок з каласоў
Падніму... Будзе мне абярэгам...
Як абрада далёкага рэха...

А ў сутонні жытнёвых палёў
Калыхаецца музыка слоў:
"Ты ляці, страла..."

## КУПАЛЛЕ

Над Убарцю, над Сцвігай і Славечнай,
Дзе шчэ шумяць спрадвечныя бары,
Бы шмат вякоў назад, пад Шляхам Млечным
Апоўначы распальваюць кастры.

Прыгожае язычніцкае свята...
(Як дзіўна, што дайшло да нашых дзён).
Спяваюць галасістыя дзяўчаты,
Кідаючы вянкі цераз агонь.

І ўзяўшыся за рукі, узлятаюць
Над полымем купальскіх тых кастроў.
На шчасце кветку-папараць шукаюць
Пад шэпт замоўных таямнічных слоў.

Шаптанне дрэў. І траў лясных шаптанне.
І птушак апаўночных галасы.
І першае дзявочае каханне
Заззяе ў кроплях ранішняй расы.

А ноч звініць...
                Касцёр ледзь-ледзь дыміцца.
І пляск вады. І смех па-над ракой.
І хочацца да рання заблудзіцца
З прыгожай палешучкай маладой.

Але цяжэюць ад бяссоння вейкі.
І сніцца мне, што ўдалеч праз вякі
Плывуць усюды па славянскіх рэках
Купальскія замоўныя вянкі...

## ТУРАЎСКАЕ ГАРАДЗІШЧА

Над Туравам грымела навальніца.
Гасцініца драўляная цякла.
І толькі заставалася маліцца,
Але была зачынена царква.

Тры дні і ночы дождж ішоў няспынна.
Шаптаў я летапісныя радкі:
"Паставіша князь Тур зело град дзіўны..."
Цяклі, як Прыпяць, даўнія вякі...

Гісторыя плыла перад вачыма:
Знікалі княствы, гінулі князі.
І толькі, як і сёння на Радзіме,
Ішлі дажджы на Кіеўскай Русі.

Ішлі дажджы... На тураўскім пагосце
Замшэў і пахіліўся стары крыж.
Мінулае... Як мала зберaглося.
Душа мая, ад страт цяжкіх гарчыш.

Гісторыю адкладвалі на потым,
Маўляў, хапае сённяшніх турбот.
На гарадзішчы — за калючым дротам
Заместа града нечы агарод...

Было балюча, сорамна і прыкра...
Зноў паўтараў даўнішнія радкі:
"Паставіша князь Тур..."
Няўжо прывыклі:
На гарадзішчы — бульба і гуркі?!

Таму, відаць, па ўсёй Русі вялікай
Такіх, як Тураў, мноства гарадоў:
Закінутых, забытых і бязлікіх...
Біць у званы...
Але няма званоў...

## ПАЧНІ АДРАДЖЭННЕ

На водкуп Айчыну маю аддалі.
Спустошаны храмы, спустошаны душы.
Крыніцы народа бяздумна асушаны
На гэтай пакутнай славянскай зямлі...

Ні звычаяў даўніх, ні песень далёкіх.
Няма ўжо ў народзе тых моцных асноў.
Не можа жыць дрэва без каранёў.
Знікае рака, калі нішчаць вытокі...

Дзе продкаў магілы — цяпер дыскатэка.
Атручваюць рокам цябе, мой народ.
Чаму ж ты ўсё зносіш каторы ўжо год,
Як зносіць насмешкі і крыўды калека?..

Цябе утапілі ў гарэлкавай скрусе.
Жывеш, як апошні жабрак на Русі.
(Спрадвеку жывуць добра толькі князі...)
Чаму ж ты маўчыш, о, народ Беларусі?!

Ці страціў навекі і памяць, і мову?
О, як жа дайшоў ты да гэткай мяжы?!
Пачні адраджэнне славянскай душы
З глытка хоць гаючага роднага слова...

## А ДУБ СІВЫ ГАМОНІЦЬ

Такі знаёмы паварот дарогі —
І з борцю дуб прыветла зашуміць.
Усе сумненні, крыўды і трывогі
Захочацца адразу мне забыць.
Дуб-патрыярх...
Тут дробязям не месца.
Стагоддзяў світак пад старой карой.
Сарвецца жолуд —
І князь Тур, здаецца,
З дружынай скача сцежкаю лясной.
А гэты звон?..
Куюцца вілы, косы.

Гарадь маёнткі панскія паўсюль.
І заклікае страсна Каліноўскі:
"Мужык, успомні, хто ты і адкуль!..."
Ідзе з народам малады Купала
(Заўжды ён добра помніў, хто такі).
Старонак у гісторыі нямала:
Чытаць іх людзям хопіць на вякі...
А дуб шуміць,
А дуб сівы гамоніць,
І падаюць на сцежку жалуды.
Яшчэ крыху —
І пранясуцца коні,
Сляды замураваюць назаўжды...
Не зарастай, як сцежка, наша памяць.
Ссівелы дуб у ліставеі зноў
Нам шле лісты з далёкіх тых вякоў —
І кружацца, і кружацца над намі,
Хвалююць нас у залатую замяць
Таемным сэнсам паўзабытых слоў...

## ЖМЕНЬКА СЦЁРТЫХ І ВЫЦВІЛЫХ СЛОЎ

На малых і вялікіх пагостах,
На абсягах Айчыны маёй
Колькі іх у апошнюю ростань
Адляцела... І стала зямлёй...

Колькі іх — і вялікіх, і слынных,
Колькі верных дачок і сыноў
Тут ляжыць, на пагостах Айчыны,
З жменькай сцёртых і выцвілых слоў.

Тут ляжыць беларуская мова...
Той, хто ведаў — няма даўно...
А жывыя?..
Што ім да слова?
Ім, як мёртвым, усё адно...
Не баліць анічога-нічога...

І няма ні народа, ні Бога...
Дык няўжо мне такі выпаў лёс —
Несці слова сваё на пагост?!.

## РАЗМОВА
## З ЯНКАМ КУПАЛАМ

Ах, Іван,
Ах, Іван Дамінікавіч,
Сэрца, сэрца
Знямогла ад болю —
Мова народа вялікага,
Нібы птушка,
Ірвецца на волю.
Б'ецца, трапечацца,
А не пускаюць
Раўнадушша нашага краты...
Вырвецца, родная,
Нават не знаю,
Хто будзе рады?
Хто будзе рады?
Адвярнуўся
Народ наш
Ад песень і мовы.
Што нам пакінулі?
Піць?
Ды лаяцца?
Вось і п'ём,
Прапіваем
Апошняе слова...
Ах, Іван Дамінікавіч,
Усё паўтараецца...
Чуеце,
Там дзесь
Далёка-далёка
Ваша жалейка плача?
Божа высокі,

Божа высокі,
Мы звар'яцелі, няйначай...
Што ж мы кідаемся
Матчынай мовай,
Нібы апошнія грэшнікі?..
... Ўецца, струменіцца
Звонкай падковай
Светлы раўчук
Між алешніку...

## РЭКВІЕМ

Вось і ўсё.
Засталося
Апошнюю кропку паставіць. —
І Айчыны грудок
Замяце назаўсёды зіма.
Вось і ўсё.
Мой народ
На апошняй сваёй пераправе...
Памірае народ,
Калі мовы ў народа няма.

Як даўно не чуваць
На Радзіме пяшчотнага слова,
Як даўно мой народ
Анямелы зацята маўчыць.
Вось і ўсё.
І няма, і няма
Болей роднае мовы...
І злятаюцца ўжо
Нашы вочы кляваць
Крумкачы...

А над Летай рыпяць,
Мелюць душы
Замшэлыя жорны.
І апошні лісток
На галінцы азяблай трымціць.

І адчаліць Харон
Ў старым чоўне
Прасмаленым чорным,
І вяслом небыцця
Абарвецца
Жыццёвая ніць...
Вось і ўсё.
Апускаюцца рукі
У роспачнай скрусе.
І нікога вакол.Ды і я на зямлі
Не прарок...
І няма больш маёй,
І няма Беларусі...
Замятае зіма,
Засыпае
Айчыны грудок...

## МАЛЕННЕ КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

О, Божа,
Злітуйся над імі,
Дай памяць ім...
Успомняць хай
Імя забытае Радзімы,
Імя сваё
І родны край...
Дай памяць ім,
Што ўсё забылі...
О, Божа,
Злітуйся над імі...
Успышкай гнеўнай бліскавіцы
Ім шлях у цемры асвятлі.
Не дай жа ім зусім забыцца
На ўсё святое на зямлі.
Успышкай гнеўнай бліскавіцы
Ім шлях да праўды асвятлі...

О, Божа,
Злітуйся над імі,
Вярні ім памяць і любоў,
Вярні ім мову,
Каб нямымі
Не йшлі на споведзь,
Дзе грахоў
Адпушчана ім будзе многа...
Малю цябе
Пад небам строгім —
Вярні ім памяць і любоў...
О, Божа,
Літасцівым будзь.
Цяжкі да ачышчэння пуць...
Дай ім увесь прайсці яго,
Не помні зла ім і даўгоў.
Няхай свой крыж яны нясуць.
Цяжкі да ачышчэння пуць...
О, Божа,
Літасцівым будзь...
Прабач ім чэрствасць і ману,
Прабач, о, Божа, іх віну,
Прабач цяжкія іх грахі,
Не дай жа ім спаліць страхі
Над новым днём сваёй Радзімы
У непрытомнасці сваёй...
Не дай ім захлынуцца ў дыме
І смагу наталіць слязой...
О, Божа,
Злітуйся над імі...

## ХРОНІКА АДНАГО ПЕРАСЯЛЕННЯ

Як вайна
Сорак першага года,
Нечакана, нязвана

Наляцела бяда.
Як баліць гэта рана...
"Нездарма, —
Цётка Хрысця казала, —
Птушка ўночы крычала
За вёскай жахліва
Дзівам...
Нездарма
У калодзежы знікла вада
Перад гэтай бядою...
А цяпер і не трэба
Хадзіць за вадою...
Анікога няма..."
Апусцела
Палеская вёска.
І машыны з дзяцьмі,
І павозкі
Па шляхах зарыпелі.
Ні пажыткаў, ні клункаў.
Толькі ў хустачку дакументь
Ды са сцен паздымалі
Партрэты —
Памяць гэта...
Бабкі ж неслі іконы,
Ў іх, вядома, свае законы.
Ні пажыткаў, ні клункаў...
Адны невясёлыя думкі,
Ад якіх
Распухаюць галовы.
Непадоеныя каровы
Ўслед раўлі
І скулілі сабакі
На падворках...
Хто пакорміць іх?
Горка...
Дзед Мікіта, былы ваяка,
Не саромеўся, плакаў
І казаў:

"Нікуды не паеду
Ад роднай зямлі,
Ад магіл...
Перад смерцю
Бадзяцца па свету?
Не паеду...
Мала сіл
Засталося..."
"Што ты, дурань стары? —
Бабка Прося галосіць —
Радыяцыя..."
"Ат, прывыклі даўно...
Ўсё адно —
Радыяцыя,
Меліярацыя...
Хай яно ўсё згарыць...
Не паеду, сказаў,
Тут застануся жыць,
Буду тут паміраць..."
І упала сляза
Ў горкі пыл на дарогу,
Па якой да парога
Гэтым полем
Ніколі
Не вернуцца людзі...
"Го-о-о-ра..." —
Ляціць над прасторам.
І адгалоссе
Вецер разносіць.
"Божа, што ж гэта будзе?" —
Бабка Прося галосіць...
І адчай, і трывога
У жаночых вачах...
Толькі пыл над дарогай,
Шэры пыл не ачах...
Міма хаты,
Праз поле
Машыны, павозкі...

Адгукаецца болем
Апусцелая вёска...
"Дзед Мікіта, пайшлі,
Мы — салдаты, —
Старшыня адвярнуўся,
Слязу неўпрыкметку
Пальцамі выцер, —
Пажывём на зямлі...
Будуць вёскі,
Палеткі...
І белыя гусі
Зляцяцца на Прыпяць...
Нам, салдатам,
Ці плакаць?.."

Ўслед каровы раўлі
І скулілі сабакі...

## БУСЛЫ ЧАРНОБЫЛЯ

Птушкі белыя, птушкі палескія,
Чым жа вы прад людзьмі вінаватыя?
Прылятаді вы з добрымі весткамі,
Клекаталі над роднымі хатамі.

Над шляхамі, над спелымі нівамі
Вы кружыліся ў небе высока...
Вы махалі нам белымі крыламі
На растанне з-пад белых аблокаў...

Вы вясну на Палессе прыносілі,
Майстравалі буслянкі да вечара...
І калі нас з тых вёсак вывозілі,
Вы кружыліся ў небе знявечаным...

Клекаталі ўслед нам сіратліва
Над пустымі бязлюднымі вёскамі.
Вашы белыя, белыя крылы
Ад бяды пачарнелі чарнобыльскай...

## СПУСТАШЭННЕ

На здзічэлым забытым пагосце,
Дзе акацыя буйна цвіце,
І гаротна, і смутна мне штосьці
Між крыжоў у густой лебядзе...

Засталося ад вёскі тры хаты
Ды і ў тых аніхто не жыве...
Сіратліва шапочуць прысады,
Пахіліўся стары журавель.

Нашы вёскі пагостамі сталі.
Не вайна... Вінаваты прагрэс.
Сінім полымем смутку і жалю
Дацвітае за вокнамі бэз.

Спустошэнне... Ніякія лекі
Не памогуць... Балець галаве.
Як маленства, забытае некім,
Мячык гумавы ў роснай траве...

## КРЫКІ ШЭРЫХ ГУСЕЙ

Вось і зноўку прыйшла
На зямлю маю восень.
Над пустымі шляхамі
Закружыў лiставей.
Праз туман і дажджы
Зябкі вецер даносіць
Крыкі шэрых гусей,
Крыкі шэрых гусей...
Ах, як плачуць яны
Над маёю Айчынай,
Што навекі пазначана
Чорнай бядой...
Гусі, шэрыя гусі,
На далёкай чужыне
Ападзіце на травы
Горкай-горкай тугой.

У густых трыснягах
Паўнаводнага Ніла
Хай усходзіцца вецер
Ад гэтай журбы,
Плач і боль панясе
На абпаленых крылах
Над сусветам усім...
Можа, заўтра нябыт?!

О, мая Беларусь,
Дык няўжо ты сканаеш?
О, мой ціхі народ,
Жыць, павінен ты жыць...
А вакол цішыня...
Толькі ледзь далятаюць
Крыкі шэрых гусей
Праз туман і дажджы...

## АДЗІНОКАЙ СВЕЧКАЙ СТЫНЕ

Адзінокай свечкай стыне
На крыжы глухіх шляхоў
Храм Марыі-Магдаліны
Між заснежаных палёў.

І нідзе вакол нікога.
Толькі зябне маладзік.
Ды ў царкве прад лікам строгім
Вецер моліцца адзін...

А ўначы, пад ветру ўсхліпы,
Па няходжаных шляхах
Рушаць мёртвыя сялібы
І пагосты на крыжах...

Продкаў стомленыя цені
Будуць крочыць напраскі...
На апошняе маленне
Сыдуцца ўсе ў храм пусты...

І з малітвай пра Айчыну,
Пра пакутны горкі лёс
Храм Марыі-Магдаліны
Узнясецца, як Хрыстос..

## КРЫЖЫ-АБЯРЭГІ

У вёсках палескіх,
Як белыя здані,
Стаяць на раскрэсах
У шызым тумане
Крыжы-абярэгі...
Я помню з маленства
Магічныя знакі:
Ад буры, пажару,
Вады і маланкі
Ахоўвалі стрэхі...
На божыя святы
З малітвай жанчыны
Абрусам увешвалі
Крыж пуцявінны,
І білі паклоны...
Крыжы-абярэгі...
Ля іх благаслаўлялі
Дзяцей у дарогу,
Страчалі гасцей
І маліліся Богу.
Да самага скону
Былі яны побач.
І ў шлях той апошні
Ад вёскі праз пожню
Ішлі да пагосту
Крыжы-абярэгі...
А сёння, а сёння
У стылую восень
Няма ні крыжоў
На Палессі,
Ні вёсак

На многія вёрсты,
Няма ні хаціны...
О, дзе вы, о, дзе вы,
Крыжы-абярэгі?
Вярніце Айчыну,
Не дайце загінуць...
Мой край захавайце
Ад рознай напасці,
Ад рознага ліха...
Вакол гэтак ціха...
Як белыя здані,
У шызым тумане
Крыжы-абярэгі...

## АЙЧЫНА

Што, мая Айчына,
Нібы воўк у полі
Плачаш-завываеш
Над сваёю доляй?

Што ж сама на згубу
Аддала ты волю?
Люба ці не люба —
Зноў жыві ў няволі.

Чыстыя крыніцы
Зацягнула багнай...
Як крыві чужынцы
Зноўку тваёй прагнуць!

Што ж ты анямела?
Дзе твой меч шырокі?
За свабоду смела
Кінь жа кліч далёка!

Хай сыны прачнуцца
Ў курганах забытых...
Хай яны сыдуцца
На тваю малітву.

Не дадуць на згубу
Родную краіну...
Люба ці не люба —
Нельга без Айчыны...

Ці то пыл дарожны?
Ці сцяною жыта?
Памажы нам, Божа,
Выйграць гэту бітву...

## НЕ БУДЗЬЦЕ РАЎНАДУШНЫМІ НІКОЛІ

Не будзьце раўнадушнымі ніколі.
Не асуджайце лёс свой на нядолю.
Не аддавайце край свой у няволю.
Як сіратліва ў апусцелым полі
Без крыку адляцелых журавоў.

Калі гарыць за вокнамі рабіна,
Прыходзіць значыць восені часіна.
Вяртаемся да роднае хаціны —
Няма жыцця без любае Айчыны...
Не разгубіце вы сваю любоў.

Не ачужэйце ад чужынскай ласкі.
Успомніце маленства свайго казкі.
Спявайце песні даўнія дзядоў.
Не забывайце матчыных вы слоў.
Айчыну зберажыце для сыноў...

## ВЫ ЧАКАЛІ МЯНЕ?

Вы чакалі мяне?
Я прыйшоў...
Вы такога мяне чакалі?
Я прынёс вам боль гэтых слоў,
Што нанізаны, як каралі...

Мае слёзы на іх зіхцяць,
Смутак інеем ледзянее.
Як мне раны вашы баляць,
Як баляць мне вашы надзеі...
Не глядзіце так на мяне,
Я дакор ваш і ваша сумленне...
Хто там горка мяне кляне?
Не кляніце...
Я ваша збавенне...

Я прабачу ўсе вашы грахі,
Я суцішу вашыя болі...
Пакажу вам цяжкія шляхі
Да святла і лепшае долі...
Вы гатовы, гатовы ісці?..

## АКЛІКНУ

*Памяці брата Валянціна*

Аклікну. Нікога у цёмным бары.
Адклікнецца толькі мне шум баравы.
Ды сокал высока. Ды чорны крумкач
Пракрача мне побач: "Над доляй не плач."
А я і не плачу. Адплакаў даўно.
На травах мядовых настою віно.
Я віп'ю п'янкога, я вып'ю віна
І песню таксама да самага дна
За долю, за волю Айчыны сваёй.
Пракрача крумкач: "На дарозе не стой."
Пракрача крумкач на ўвесь бор векавы:
"Айчыны тваёй я нап'юся крыві..."
Ах, чорны крумкач, ты дарэмна крычыш.
Ўжо вострацца дзіды, куюцца мячы.
І мужных асілкаў уздымаецца раць.
Крыві табе, чорны крумкач, не спытаць.
За нашу Айчыну устанем сцяной,
У сечы крывавай заслонім сабой.
Я вольнага ветру яшчэ папрашу,

Каб ён ўскалыхнуў баравую душу.
І бор векавы зашуміць, загудзе,
І чорны крумкач са стралой упадзе.
Я зноўку аклікну шырокі абсяг,
І песняй адклікнецца выстылы шлях...

## ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

У храме зялёным,
У цішы лясной,
Нібы прад іконай,
Стаю прад табой.
Гляджу анямелы
На лік твой дзівосны.
Паненкай нясмелай
Ты мроіш пра вёсны.
На хвалях срабрыстых
Люляеш світанні.
У водах празрыстых
Хаваеш паданні.
Шчыміш успамінам,
Красою палоніш.
Слязінкай Айчыны
Зіхціш на далоні...

## СУСТРЭЧА З АДАМАМ МІЦКЕВІЧАМ

А над Кракавам дожджык крапае.
Вісла сумная бачыць сон.
І душа мая, як за кратамі,
Плача ў суцемках шэрых дзён.

Аплывае касцёла готыка
Ў задажджоным маім акне.
Стара Мяста...
Плыве мелодыя
У рыбацкім старым чаўне.

Век далёкі ў сталёвых латах
За мурамі мячом звініць.
Віта Ствоша Хрыстос распяты
Так пакутна ў душу глядзіць.

Вулкі. Цені. Шапочуць дрэвы.
Дожджык сеецца над ракой.
Вавель прывідам...
Тут Міцкевіч
Назаўсёды знайшоў спакой.
Ён блукаў пад чужымі зоркамі —
А хацелася так дамоў...
Навагрудчыны мілай узгоркі,
Задуменнасць сівых дубоў.

Як акно ўначы, Свіцязь свеціцца.
Па-над пушчай рагоча лясун.
І русалка пад срэбным месяцам
Распускае сваю касу.

Там Марыля — яго каханне...
Як на крылах, ляцець туды.
Не паспець яму да світання.
І стаіць адзін ля вады...

Тлее вогнішча на тым беразе
Напамінкам пра родны край.
Каля Віслы мы з ім сустрэліся:
"Ты за сумны дождж выбачай..."

## ПЯРО ЗЯЗЮЛІ ПАДНІМУ

Паэт заўсёды ёсць прарок,
Бо ён ад Бога...
Зязюля кінула пяро
Мне на дарогу...

Хіба дабра я не хацеў
Свайму народу?
Збіраў я словы для людзей,
Як кроплі мёду...

Я шчыра праўду гаварыў.
Чаму ж не чулі?
Кувай прасветлена ў бары,
Кувай, зязюля...

Кувай на роднай старане
Лепшую долю...
Хай словы гучна, як званы,
Гудуць пра волю...

Кусты ляшчыны расхіну —
Цвіце рабіна.
Пяро зязюлі падніму,
Як лёс Айчыны...

## Я ПРАЙДУ ПА ПАЛЕССІ

Я прайду па Палессі, як песня...
Застануся я ў сэрцах людскіх.
Тут увесь я, увесь я, увесь я
У зіхценні вячэрняй ракі...

Пад усхліпы чарнобыльскіх ветраў,
Пад усплёскі атручаных вод
Я паплачу ў цішы гэтых нетраў
Па табе, па табе, мой народ...

І ў асветленых поўняй дубровах,
Дзе надрыўна крычаць жураўлі,
Я пакіну апошняе слова
На апошняй славянскай зямлі...

Божа светлы, як мала прапета...
А душа паплыла, як лісток...
Ірванецца, падхоплены ветрам,
Мой апошні палескі радок...

Без душы, без ніводнага слова
Пабрыду па здзічэлых палях...
Над Айчынай, над роднаю мовай
Палынее чарнобыльскі шлях...

# УШЧЫЖ

*У. П. Парыгіну*

Снег кружыцца
У вечаровай цішы
Над поймаю шырокай
І Дзясной,
Снег падае
Над старажытным Ушчыжам
Застылаю славянскаю слязой.

...Як крумкачы,
Зляцеліся татары.
Клявалі стрэлы
Сцены у агні.
Па чорным полі
Ў водсветах пажараў
Скакаў
Апошні ратнік
На кані...

Агонь шугаў
Над купалам сабора,
А звон ляцеў —
Біў у званы званар...
Плыў дым над поймай
Горкі, нібы гора,
Нямеў вакол
Абвуглены абшар...

Спяшаўся коннік.
Конь хрыпеў загнаны.
Ушчыж, як свечка,
Ціха дагараў.
І ў залатую чашу
Батый-хана
Крывёй сцякала
Дымная зара...

Маўчаў званар,
Пранізаны стралою.

Тануў апошні водбліск
У Дзясне.
Застылаю пякучаю слязою
На папялішча падаў
Белы снег...

## У САБОРЫ

Помню, у маленстве, бы ў далёкім сне,
Брала з сабой маці у сабор мяне.

З абразоў святыя строга так глядзелі.
Нада мной анёлы сумныя ляцелі.

"Памажы мне, Божа", — я шаптаў малітву
"Памажы мне, Божа", — я шапчу пабіты.

У жыццёвых бурах праз гады даўгія.
Слухаю ў саборы зноўку літургію.

Што зрабіў на свеце? Што зраблю, не знаю.
"Памажы мне, Божа", — неба заклінаю.

Памажы мне, Божа, дай пражыць мне светла.
За акном лютуюць, нема выюць ветры.

Помню, у маленстве, бы ў далёкім сне,
Брала з сабой маці у сабор мяне...

## ТЫ ПАМАЛІСЯ, МАЦІ, ЗА МЯНЕ

Ты памаліся, маці, за мяне,
За ўсе мае грахі ты памаліся...
Шапоча восень у маім акне.
Ах, павуціна, сівізной не віся...
Ты памаліся, маці, за мяне...

Не знаю я, дзе тыя астравы
Бязгрэшнага і светлага юнацтва,

Калі цвіце духмяная акацыя
І шчэ няма пажоўклае травы...
Не знаю я, дзе тыя астравы...

Крычаць растайна ў небе жураўлі...
Мне горкі сум іх не дагнаць ніколі.
Няўжо на гэтай выстылай зямлі
Не будзе больш ні шчасця і ні долі...
Крычаць растайна ў небе жураўлі...

Над Сожам між пакошаных лугоў
Блукаю і нічога не знаходжу:
Ні тых слядоў, ні тых былых шляхоў...
Як і ў жыцці, брыду па бездарожжы...
Над сожам між пакошаных лугоў...

І горка мне на роднай старане,
І плача сэрца клінам жураўліным...
Ты памаліся, маці, за мяне,
За грэшнага і праведнага сына,
На роднай памаліся старане...



## ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

ДЛЯ СЯРЭДНЯГА І СТАРЭЙШАГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ

**БАШЛАКОЎ Міхась Захаравіч**

**МАТЧЫНЫ ГРЫБЫ ПЕРАБІРАЮ**

ВЕРШЫ

Загадчык выдавецкага аддзела *У. А. Герасімовіч*. Рэдактар *С. С. Галавач*. Мастак *Ю. А. Тарэеў*. Мастацкі рэдактар *А. М. Хількевіч*. Тэхнічны рэдактар *В. А. Віценка*. Карэктары *Ж. С. Берасневіч, Г. У. Лебядзько*. Камп'ютэрная вёрстка *Г. М. Бялкоўскай*.

Здадзена ў набор 09.11.99. Падпісана да друку 01.12.99. Фармат $84\times108^{1}/_{32}$. Папера газетная. Афсетны друк. Гарнітура Школьная. Ум.-друк.арк. 4,62. Ум.фарб.-адб. 5,04. Ул.-выд.арк. 3,84. Тыраж 2 000 экз. Заказ 2807.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва "Ураджай"» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 8 ад 02.12.97 г. 220048, Мінск, пр. Машэрава, 11

Друкарня "Перамога". 222310. Маладзечна, вул. В.Таўлая, 11.

**Башлакоў М.**

Б 33 Матчыны грыбы перабіраю: Вершы. — Мн.: Ураджай, 2000. — 86 с.

ISBN 985-04-0351-9.

Паэзія Міхася Башлакова адметная шчырасцю, меладычнасцю, тонкім лірызмам. Яна пранізана болем за лёс народа і роднай зямлі. Кнігу склалі вершы паэта пра Айчыну, маці, народныя абрады і звычаі, хараство палескіх краявідаў, чарнобыльскую трагедыю.

Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту.

**УДК 882.6-93**
**ББК 84(4Беи)6**